# Бацькаўшчына



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 М. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. Бэльгія: 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 40 (575) — Нядзеля 1-га кастрычніка 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15


## Прамова Кэнэды перад Генэральнай Асамблеяй АЗН

25 верасьня перад Генэральнай Асамблеяй АЗН выступіў з прамовай прэзыдэнт Задзіночаных Штатаў Джон Кэнэды. Гэтая прамова ў вялікай меры адлюстроўвае афіцыйны пункт гледжаньня амэрыканскага ўраду на актуальныя праблемы міжнароднай палітыкі. У сувязі з нязвычайным міжнародным напружаньнем, выкліканым палітыкай Масквы ў дачыненьні да Нямеччыны й Бэрліну, гэтая прамова лідэра наймагутнейшай краіны вольнага сьвету мае асаблівае значэньне.

Ніжэй зьмяшчаем вытрымкі з гэтай прамовы. Сваё выступленьне Кэнэды пачаў словамі:

«Мы сабраліся сёньня ў сумную й адказную гадзіну. Даг Гамаршэльд памёр. Але Арганізацыя Аб'еднаных Нацыяў жыве далей. Мы глыбока перажываем трагедыю ягонай гібелі, але на парадку дня стаіць якраз справа, за якую ён памёр. Адыйшоў чалавек, які шляхотна служыў справе міру. Аднак пашукі міру на зямлі працягваюцца.

Справа ня ў сьмерці аднаго чалавека — справа ў жыцьці ўсяе гэтае Арганізацыі. Яна або замацуецца, знойдзе ў сябе сілы адказаць на выклік нашага веку — або разьвеецца ў паветры, пазбавіўшыся сілы, уплыву, годнасьці... Калі мы дазволім ёй памерці, аслабнуць, пазбавіць яе паўнамоцтваў, мы гэтым самым загубім будучыню. У разьвіцьці гэтай Арганізацыі закладзеная адзіная магчымасьць унікнуць вайны. А вайна перастала быць сродкам дзеля разьвязаньня міжнародных праблемаў. Не-абмежаваная вайна ня можа больш прывесьці да неаспрэчнай перамогі. Вайна ня здольная больш разьвязаць спрэчкі. Яна больш ня можа ўважацца справай адных вялікіх дзяржаваў. Бо ў атамнай катастрофе загінуць і вялікія і малыя, і багатыя і бедныя, і беспасярэднія ўдзельнікі вайны і нэўтральныя краіны. Чалавецтва павінна скончыць з вайной, інакш вайна загубіць чалавецтва.

Зробім-жа ўсё, каб даказаць, што Даг Гамаршэльд жыў і памёр не дарэмна. Заклічам да спыненьня тэрору. Прыгадаем аб дабрадзейнай сіле міру, і, узмацняючы магчымасьці захаваньня міру шляхам міжнародных высілкаў, будзем імкнуцца да абмежаваньня магчымасьці весьці вайну. Дзеля гэтага спатрэбіцца пашырэньне заданьняў АЗН. Таму, што раззбраеньне без кантролю — гэта толькі ілюзія, а грамадзтва без закону — не грамадзтва. АЗН ужо сталася праваднiком самых шляхотных імкненьняў чалавецтва. Аб'еднаным Нацыям ужо ўдалося — на Блізкім Усходзе, у Азіі, у Афрыцы, а сёлета і ў Конга ўстрымаць гвалт.

Але галоўнае пытаньне, якое стаяла перад гэтай Арганізацыяй ў 1945-ым годзе, усё яшчэ стаіць перад намі. Ці надзеі чалавецтва аб прагрэсе і міры вытрымаюць націск разбуральных сілаў тэрору? Ці здолее сіла людзкога розуму стрымаць вецер вайны? І, урэшце, ці застанемся мы вернымі забавязаньням, якія выплываюць із Статуту нашай Арганізацыі, ці адмовімся ад іх, ад забавязаньняў дамагчыся міру, прагрэсу, пашаны правоў чалавека і міжнароднага правапарадку?

У гэтай залі прадстаўленыя ня тры, а толькі дзьве сілы. Адна зь іх намагаецца пабудаваць сьвет у адпаведнасьці зь першым і другім артыкулам Статуту, іншыя-ж імкнуцца да іншага сьвету і падрываюць дзейнасьць Арганізацыі.»

Далей Кэнэды катэгарычна выказаўся супраць савецкай «тройкі» ў кіраўніцтве АЗН, бо гэта — заявіў Кэнэды — паралiжавала-б дзейнасьць АЗН і перанесла-б «халодную вайну» на форум гэтай арганізацыі. Кэнэды дамагаўся неадкладна пачаць канкрэтныя перамовы над праграмай паступовага ўсеагульнага й поўнага раззбраеньня пад эфэктоўным міжнародным кантролем і, у першую чаргу, забароны ядзерных выпрабаваньняў. Ён заклікаў Арганізацыю Задзіночаных Нацыяў выявіць большую ініцыятыву і пераняць на сябе большую ролю ў правядзеньні гэтых мерапрыемстваў. Кэнэды асудзіў савецкую абструкцыю пры дасюлешніх спробах дамовіцца аб спыненьні выпрабаваньняў і забароне ўжыцьця атамнай зброі. Кэнэды абвесьціў таксама галоўныя пункты новай амэрыканскай праграмы раззбраеньня, якая ў агульным нічым ня розьніцца ад апошніх выказваньняў на гэтую тэму Хрущчова.

Далей Кэнэды закрануў пытаньне асваеньня міжплянэтнай прасторы, заклікаў выкарыстоўваць дасягненьні ў гэтай галіне толькі для мірных мэтаў і зрабіць іх даступнымі для ўсіх людзей. Ён падкрэсьліў таксама патрэбу павялічэньня дапамогі слабаразьвітым краінам.

Спыніўшыся на праблеме каляніялізму, палажэньні ў Паўдзённа-Ўсходняй Азіі, нямецкім пытаньні й бэрлінскім крызісе, Кэнэды гаварыў:

«Мы згодныя з тымі, хто гаворыць, што галоўным пытаньнем на гэтай Асамблеі трэба ўважаць каляніялізм. Але абмяркуем фактычны бок гэтага пытаньня.

З аднаго боку, мы павінны лічыцца з тым фактам, што пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны, каля аднаго мільярда людзей, якія жывуць на тэрыторыі 23 мільёнаў квадратных кілямэтраў, сталіся грамадзянамі вольных і незалежных дзяржаваў. Менш за два працэнты насельніцтва сьвету жывуць цяпер на «залежных» тэрыторыях.

Я не закрываю вочы на існуючыя яшчэ праблемы традыцыйнага каляніялізму, зь якім усё яшчэ павінна лічыцца гэтая арганізацыя. Гэтыя праблемы будуць вырашаныя пры наяўнасьці цярпеньня, добрай волі і рашучасьці. У межах нашай адказнасьці ў такіх пытаньнях, наша краіна зьбіраецца стацца ня толькі назіральніцай, але і ўдзельніцай у мірным і хуткім пераходзе краінаў ад палажэньня калёніяў да палажэньня раўнапраўных партнэраў. Гэты магутны рух да самавызначэньня можа разьлічваць на нашае спачуваньне і на нашую падтрымку.

Але каляніялізм у сваёй скрайняй форме — гэта ня толькі эксплятацыя новых краінаў старымі, ці цёмнаскурых людзей сьветласкурымі, ня толькі паняволеньне бедных багатымі. Наша краіна была калісьці калёніяй і мы ведаем, што азначае каляніялізм: эксплятацыю і па-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

## Партыйнае замыльваньне вачэй

Ужо ад даўжэйшага часу партыя вядзе змаганьне з замыльваньнем вачэй. У савецкай прэсе пішацца пра тое, як розныя партыйныя ды дзяржаўныя вяльможы фальшуюць статыстычныя дадзеныя, каб пахваліцца сваімі «дасягненьнямі». На паперы яны выконваюць і перавыконваюць вытворчыя пляны, хоць у запраўднасьці гэта чыстая фантазія.

Аднак трэба сказаць, што гэта толькі дробная частка агульнага замыльваньня вачэй, якое ўжывае партыя ў дачыненьні да савецкіх грамадзян. Яна корміць іх дадзенымі й лікамі пра дасягненьні савецкага ладу, якія ня маюць нічога супольнага з рэчаіснасьцяй.

Клясычным прыкладам таго, як партыйныя верхаводы ашукваюць хвальшывымі лічбамі народ, зьяўляюцца артыкулы першага сакратара ЦК КПБ Мазурава і старшыні Савету міністраў БССР Кісялёва — артыкулы, якія нядаўна зьявіліся на старонках беларускай савецкай прэсы.

Мазураў піша ў «Калгаснай праўдзе» за 16 жнівеня, што Беларусь «у разьвіцьці эканомікі й культуры можа спаборнічаць з самымі разьвітымі капіталістычнымі дзяржавамі». Паводля ягоных словаў, Беларусь у некаторых галінах прамысловай прадукцыі перагнала Францыю, Англію, Заходнюю Нямеччыну і нават Злучаныя Штаты.

Кісялёў пайшоў яшчэ далей. У артыкуле, зьмешчаным у «Зьвязьдзе» з 31 жнівеня, ён кажа: «Цяпер у Беларусі на душу насельніцтва атрымліваецца мяса больш, чымся ў Англіі і Нарвэгіі, малака — больш, чым у Англіі, ФРГ і ЗША».

З артыкулаў Кісялёва выглядае, што ў Беларусі цяпер усяго ў дастатку, асабліва такіх прадуктаў, як мяса й малако. Але-ж кажнаму грамадзяніну ведама, дый аб гэтым пішацца ў газэтах, што ў забясьпечваньні насельніцтва Беларусі мясам і малаком існуюць вельмі частыя перабоі, і, каб атрымаць гэтыя прадукты, часта даводзіцца стаяць у чарзе. Тое-ж самае можна сказаць і пра іншыя харчовыя прадукты. Зусім нядаўна беларуская савецкая прэса пісала, што ў вясковых крамах нельга дастаць нават хлеба, не гаворачы ўжо пра тавары шырокага ўжытку.

З гэтага вынікае, што або лічбы Кісялёва, якія быццам-бы маюць сьветчыць аб тым, што Беларусь прадукуе мяса і малака больш за некаторыя заходнія краіны — хвальшывыя, або гэтымі харчовымі прадуктамі не карыстаецца беларускі народ, інакш кажучы — што іх вывозяць з тэрыторыі Беларусі.

Ня лепш выглядаюць справы і з прамысловай прадукцыяй Беларусі. Мазураў кажа, што Беларусь у некаторых галінах прадукцыі перагнала Францыю, Англію, Заходнюю Нямеччыну й Злучаныя Штаты. Але з словаў Кісялёва вынікае, што, прыкладам, колькасьць сельскагаспадарчых машынаў у Беларусі вельмі малая. Сельская гаспадарка Беларусі мела ў сваім распараджаньні толькі 60 тысяч 800 трактароў, 10 тысяч 600 збожжавых камбайнаў, каля 34 тысячы грузавых машынаў і 3 тысячы 800 бульбакамбайнаў. Дзеля параўнаньня досыць сказаць, што нескалектывізаваная сельская гаспадарка заходняй Нямеччыны мае мільёны трактароў, камбайнаў ды грузавых аўтамашынаў. Там амаль кажны сялянін мае ня толькі цэлы шэраг вельмі добрых сельскагаспадарчых машынаў, але нават і сваё легкавое аўта.

Як відаць з усяго сказанага, сельская гаспадарка Беларусі мала карыстаецца вырабамі ўласнай прамысловай вытворчасьці. Беларуская прамысловасьць не працуе на карысьць беларускага народу. Яна знаходзіцца пад поўным кантролем савецкага рэжыму, так як калісьці пад кантролем імпэрыяльных рэжымаў знаходзілася гаспадарчае жыцьцё афрыканскіх ды азіяцкіх краінаў.

**Р. С.**

## Сёе-тое

Як даведваемся, Беларусь наведвае шмат (як на падсавецкія ўмовы) замежных турыстых.

«Толькі за 1960 год, — піша «Звязда» за 22-га жнівеня, — Беларусь наведала больш за 28 тысяч іншаземцаў з 35 краін, у тым ліку каля 11 тысяч з капіталістычных дзяржаў. У асобныя дні ліпеня і жніўня гэтага года ў Мінску адначасова знаходзілася па 500-600 іншаземцаў. Няхай было-б і больш, ёсьць у нас чым іх і накарміць, і напаіць, і апрануць, і машыну ў дарогу заправім не якім-небудзь сурагатам, а высокаякасным бензінам».

Вось малайцы! Дык і ў чым-жа справы? Бачыш, ....«розныя слізкія, агідныя пачвары знайшлі адтуліну для падрыўной дзейнасьці супраць Савецкага Саюза».

Што-ж гэтыя «пачвары» робяць? Ды вунь адзін зь іх намагаўся сфатаграфаваць сьметнік на Камароўцы (дзяржаўны сакрэт ці ваенны аб'ект?), а іншы хацеў зрабіць здымку хлапца (калекцыянера манэтаў) як яму сябра даваў манэты, ды пэўна-ж абедзьве здымкі мелі трапіць дзесь на старонкі часапісаў у вольным сьвеце. Але, бач, не ўдалося! Пільныя савецкія людзі (чытай МГБ) за руку злавілі.

Ды фатаграфаваньне сьметнікаў і іншых сакрэтных аб'ектаў — гэта адно частка тэй работы, якой «агідныя пачвары» займаюцца.

Паслухайце далей (як і раней захоўваем савецкі «правапіс»): «На стаянках аўтамашын, у гасцініцах, у рэстаранах з'явіліся нібыта некім выпадкова пакінутыя часапісы, брашуры, кніжкі. Што-ж гэта за літаратура і хто яе забывае? Аўтатурыстыя з США Вудвартлі і Бянер Дыяна пакінулі на месцы стаянкі аўтамашын ля Мінскага кемпінга махрова-рэакцыйныя часапісы «Ляйф», «Рыдэрс дайджэст» і некалькі бульварных кніжак. Турысты з той жа Амерыкі Марлін Менсан і Ральф Пейс растыркалі 21 экземпляр часопіса «Амерыка» па нумарах гасцініцы, цёмных кутках калідораў і нават... па туалетах. Кіраўнік адной з груп амерыканскіх турыстаў набраўся нахабства навязаць савецкім грамадзянам рэакцыйны часапіс «Нюсўік». Музыкантам джаз-аркестра рэстарана «Мінск» нейкі Колінс падсунуў ноты музыкі тыпу «рок-н-рол». Часьцей за ўсё з'яўляюцца брашура «ЗША» і кніга Р. Дэвенпарта «Годнасьць чалавека». Але дарэмна раскідваюць сваю макулатуру паны з-за акіяна і Заходняй Германіі. Усе гэтыя часапісы, брашуры, лістоўкі савецкія людзі калі і падымаюць дык толькі для таго, каб патрабаваць заклікаць да парадку распеpазаўшыхся малойчыкаў».

Пасьля такога заключнага слова адносна «макулатуры» нам незразумела, чаго «Звязда» так пеніцца. Людзі-ж, гэтыя самыя слаўныя, гераічныя, проста-напраст роднапартыйныя дзэткі зусім ёй ня цікавяцца. Ім вунь хоць ты пад нос ткай, дык яны каб табе панюхалі... Дык чаго тады «Звязда» пеніцца й называе турыстых пачварамі?

Вунь вазьмі ў вольным сьвеце. Рознай камуністычнай «макулатуры» хоць ты заваліся. Людзі ведаюць, што гэта наскрозь прапагандовы смурод дык і абыходзяць навет тыя месцы. Але нікому і ў галаву ня прыйшло сачыць тых, што любяць у тым смуродзе калупацца. Няхай. Каму там галава баліць. А калі-б нехта пачаў тых смуроднікаў, калупайлаў лаяць ці, барані Божа, аб іх у газэтах пісаць, дык яго куры-б засьмяялі.

Гэтак у вольных краінах. Кажны піша ці чытае, што яму падабаецца. Але ня так у тэй краіне, дзе «найбольшая свабода», дзе вось-вось маюць зямны рай пабудаваць...

Усё-ж «Звязда» можа супакоіцца. «Лайф», «Рыдэрс дайджэст» ці «Ньюсўік» больш месца прысьвячаюць рэклямам чым «перадавой краіне сацыялізму». Трэба было-б запраўды сінець «Зьвязьдзе» із злосьці, калі-б турыстыя пачалі раськідваць па Бэсэсэрыі «Бацькаўшчыну».

☆

Магутная савецкая прапагандовая машына, уключна з казённай літаратурай робіць усё магчымае ў кірунку выхаваньня гэтак званага савецкага чалавека. Прататып ведамы: чалавек гэты мае быць высакамаральны ў тым значэньні, што павінен зусім забывацца аб сабе, адно добра скакаць на павадку «роднай партыі», надрываць для яе ўсе сілы, высалапіўшы язык перці наперад у тых дагонах і перагонах Амэрыкі, вечна хваліць ненавісны антынародны лад, пільна сачыць за антынароднымі (чытай антыпартыйнымі) элемэнтамі, значыцца быць даношчыкам, ды мець масу іншых «савецкіх» якасьцяў. З мэтай выхоўваньня такіх людзей, перш за ўсё культываваньня ў паняволеных любові да непасільнай працы за жабрацкае ўзнагароджаньне, пішуцца нарысы, апавяданьні, раманы пра гэтак званыя «вехі» розных гагарынаў, чэкеляў, перадавых даярак, муляроў, сьвінарак і іншых з папіхальна-наганяльнага апарату савецкае сыстэмы.

Адзін гэткі нарыс нейкай Алены Васілевіч п. заг. «У суседзтве з сонцам» пра менскіх будаўнікоў, а асабліва пра Марыю Макарэвіч ёсьць у № 7 сёлетняга «Полымя». Нашых чытачоў пэўна менш будзе цікавіць, як у нарысе намаляваны крывы вобраз калішняе вясковае дзяўчыны з Гомельшчыны, што сяньня працуе брыгадзірам на будове, чымся тых пару, як народная мудрасьць кажа, шылаў, што вылезьлі зь мяшка.

Вось першае: «Ніна працуе ў брыгадзе Марыі Макарэвіч ужо трынаццаць год. Яна таксама мае высокую ўзнагароду — ордэн Леніна. У гэтым годзе Ніна таксама атрымала асобную кватэру».

Чулі? Ордэн леніна даўно, а кватэра пасьля трынаццаці гадоў працы пры будове.

І другое: «Па колькі зарабляюць у месяц рабочыя?

Ну, гэта залежыць яшчэ і ад разраду. Міхась Астапавіч, у яго чацьвёрты разрад, напрыклад, атрымлівае 1400 рублёў. Сама брыгадзір — у яе разрад пяты — 1600 рублёў.

Будаўнікам, як бадай і ўсім нам, яшчэ як быццам неяк зручней карыстацца старой «мерай»... 160 ці 140 рублёў як быццам гучаць не так важка. Звычка...»

Першаклясны муляр, як бачыце, зарабляе 140 рублёў на месяц. Ці чуў хто з вас, каб прыкладна самы апошні муляр у Амэрыцы ці Канадзе працаваў месяць за 140 даляраў, навет улічваючы, што за іх тут больш купіш чымся ў Бэсэсэрыі за 140 рублёў? А што з таго, што кватэра танная, калі на яе трэба чакаць трынаццаць год?

Муляр у Канадзе ці Амэрыцы (добрыя людзі не дазволяць схлусіць, бо ўсім вядома) зарабляе дзесь ад двух з палову да чатырох даляраў у гадзіну, залежна ад месца працы, мясцовасьці ды й таго, ці належыць ён у профсаюз, ці не. Значыцца, савецкі перадавы муляр-ударнік, сябра гэтак званай брыгады камуністычнай працы зарабляе чатыры разы менш за звычайнага Амэрыканца ці Канадыйца.

Столькі адносна параўнаньняў.

І вось яшчэ адна вытрымка: «Вось Жэня Дацкевіч. Яна ў нас самая маладая. Рознарабочая. Але вучыцца. Таксама будзе муляр... І праўда — Жэня маладая яшчэ. Вочы вялікія, шэрыя. Смуглы румянец на шчоках і чорныя бровы ўразлёт. Па такой дзяўчыне, пэўна млее, не адно хлапечае сэрца...»

Няхай сябе ў хлапцоў млеюць сэрцы. Народныя крывапіўцы ніколі ня лічыліся з красой. А колькі такіх Жэняў, у якіх млеюць рукі ад цяганьня цэглы гадоў трынаццаць ды й горб на сьпіне вырасьце, пакуль асобную кватэту атрымае? Пэўна-ж, ардэн Леніна заслужыць раней...

**Міхась Козыр**

# Прамова Кэнэды перад Генэральнай Асамблеяй АЗН

(Заканчэньне з 1-ай бач.)

няволеньне слабых моцнымі, масы людзей нямногімі, падданых, якія не давалі згоды на тое, каб імі кіравалі — якімі-б ні былі іхная частка сьвету, клясавая прыналежнасьць, ці колер скуры.

Вось чаму нельга закрываць вачэй на той факт, што вялікі рух за самавызначэньне яшчэ не дасягнуў камуністычнай імпэрыі, насельніцтва якой значна перавышае насельніцтва, што жыве ў гэтак званых «залежных» краінах; насельніцтва гэтай імпэрыі жыве ўва ўмовах рэжымаў, устаноўленых чужаземным войскам, а ня ў выніку вольных выбараў, рэжымаў, якія прызнаюць толькі адну партыю і адну ідэялёгію, рэжымаў, якія здушваюць свабоднае абмеркаваньне, свабодныя выбары, свабодную прэсу, кнігі і прафсаюзы і ставяць мур, каб не дапусьціць у краіну праўду і трымаць у палоне сваіх грамадзян. Давайце-ж поўнасьцяй абмяркуем каляніялізм. Давайце ўжывем прынцып свабоднага выбару, вольных плебісцытаў у кожным кутку зямной кулі.

І, нарэшце, у якасьці прэзыдэнта Злучаных Штатаў, я ўважаю за свой абавязак заявіць Генэральнай Асамблеі аб наяўнасьці дзьвюх пагрозаў міру, якія не пастаўленыя на ваш парадак дня, але якія выклікаюць у нас і ў бальшыні з вас найглыбейшую трывогу.

Першая пагроза, аб якой я хачу сказаць, часта разумеецца няправільна. Мова ідзе аб тлеючай вайне ў Паўдзённа-Ўсходняй Азіі. Паўдзённы Ветнам ужо зьяўляецца аб'ектам нападу — ці то з боку паасобных забойцаў, ці з боку групаў паўстанцаў, а апошнім часам з боку ўкамплектаваных батальёнаў. Мірныя граніцы Бірмы, Камбоджы і Індыі неаднаразова парушаюцца. А міралюбны народ Ляосу рызыкуе страціць тую незалежнасьць, якую ён нядаўна здабыў.

Ніхто ня можа назваць усё гэта «вызвольнай вайной». Бо мова ідзе аб вольных народах, кіраваных сваімі ўласнымі ўрадамі. Агрэсія не перастае быць агрэсіяй, калі іх рэжуць у іхных дамох, а не забіваюць на палёх бітвы.

Перад сусьветнай арганізацыяй стаіць адно вельмі простае пытаньне: ці можна распрацаваць мэтады дзеля аховы малых і слабых краінаў ад такіх прыхватак. Бо калі яны ўкарануюцца посьпехам у Ляосе і Паўдзённым Ветнаме, дык гэтым самым брама будзе адчыненая насьцеж.

Злучаныя Штаты ня шукаюць ні базаў, ні тэрыторыяў, ні якога-б там ні было прывілеяванага палажэньня ў гэтай частцы сьвету. Мы стаім за запраўды нэўтральны і незалежны Ляос з народам, ахоўваным ад умяшаньня звонку, які жыў-бы ўва ўмовах унутранага і вонкавага міру, упэўнены ў тым, што ягоная тэрыторыя ня будзе выкарыстаная дзеля нападу на іншыя краіны — які жыў-бы пад кіраўніцтвам (як пан Хрушчоў і я дамовіліся ў Вене) параўнальным з кіраўніцтвам Камбоджы або Бірмы.

Але ў сучасны мамэнт перамовы аб Ляосе ўвайшлі ў крытычную стадыю. Замірэньне знаходзіцца ў вельмі нятрывалым палажэньні. Сэзон дажджоў падыходзіць да канца. Тэрыторыя Ляосу выкарыстоўваецца дзеля інфільтрацыі Паўдзённага Ветнаму. АЗН павінна прызнаць, што гэтая пагроза міру й свабоды Ляосу цесна спалучаная з усімі іншымі пагрозамі іншым сяброМ АЗН.

Падругое, я хачу зьвярнуць вашу ўвагу на крызіс у сувязі з Нямеччынай і Бэрлінам. Было-б несваечасовым і не на месцы гаварыць аб гэтым пытаньні ў нястрыманым тоне, але АЗН мае права разабрацца ў гэтых — на нашу думку — вельмі простых пытаньнях. Калі крызіс існуе, дык толькі таму, што існуючы мірны парадак у гэтым раёне знаходзіцца пад пагрозай; таму што на малы абток вольных людзей робяць ціск; таму, што да ўрачыста прынятых пагадненьняў ставяцца абыякава. Устаноўленым міжнародным правам пагражае аднабаковая ўзурпацыя. Мірны кантакт перарываецца калючым дротам і бетоннымі сьценамі. Міжволі прыгадваецца загад цара ў пушкінскім «Барысе Гадунове»:

«Зрабіць неадкладныя мерапрыемствы: каб Расея адгарадзілася заставамі; каб ніводная душа не перайшла за гэтую мяжу; каб заяц не перабег...; каб воран не пераляцеў».

Бязглуздам было-б цьвердзіць, быццам-бы мы пагражаем вайной толькі таму, каб перашкодзіць Савецкаму Саюзу і Ўсходняй Нямеччыне падпісаць гэтак званую «мірную ўмову». Заходніх саюзьнікаў ня цікавяць ніякія паперовыя пагадненьні, падпісаныя Саветамі із створанымі імі самымі рэжымамі на тэрыторыях, занятых іхным войскам і кіраваных іхнымі стаўленьнікамі. Такія мерапрыемствы не закранаюць ні нашых правоў, ні нашых абавязкаў.

Калі ў Бэрліне існуе паважны крызіс — а ён існуе — дык толькі з прычыны пагрозаў, накіраваных супраць жыцьцёвых інтарэсаў і забавязаньняў заходніх дзяржаваў, супраць свабоды Заходняга Бэрліну. Мы ня можам уступіць гэтых інтарэсаў. Мы ня можам адмовіцца ад нашых абавязкаў. Мы ня можам рызыкаваць свабодай людзей, за якіх мы нясем адказнасьць. «Мірная ўмова», якая-б разбурыла мір, была-б ашуканствам. Стварэньне «свабоднага гораду», у якім была-б здушаная свабода, было-б злачынствам.

Горад або народ могуць быць запраўды свабоднымі, толькі калі яны маюць непарушнае права — не падпарадкаванае эканамічнаму, палітычнаму ці паліцыйнаму ціску — рабіць выбар на свой пагляд і жыць пасвойму. І, як я ўжо казаў, калі хто-небудзь мае сумліў, у якой ступені наша прысутнасьць пажаданая для насельніцтва Заходняга Бэрліну, мы гатовыя паставіць гэтае пытаньне на свабоднае галасаваньне ў Бэрліне ў цэлым і, калі гэта магчыма, у цэлай Нямеччыне.

Асноўны факт, які тычыцца гэтага крызісу, гэта тое — што гэты крызіс непатрэбны. Найбольш канкрэтныя сродкі для мірнага вырашэньня пытаньня знаходзяцца ў Статуце Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. Паводля Статуту, пагадненьні павінны выконвацца, калі яны не зьмяняюцца бакамі, што іх падпісалі. Існуючыя правы павінны шанавацца. Палітычны лад у асобных краінах павінен устанаўляцца паводля іхнага жаданьня, свабодна выказанага ў ходзе плебісцытаў або свабодных выбараў. Калі ўзьнікаюць юрыдычныя пытаньні, дык яны павінны вырашацца юрыдычнымі-ж сродкамі. Калі ўзьнікае пагроза гвалту, дык яна павінна быць адкінутая. Калі ёсьць жаданьне зьмяніць стан рэчаў, дык яно падлягае перамовам. А калі пачынаюцца перамовы, дык яны павінны базавацца на ўзаемнай пашане і на прызнаньні правоў партнэра.

Заходнія дзяржавы поўныя рашучасьці абараняць, усякімі накінутымі ім сродкамі, свае забавязаньні і сваё права доступу ў Заходні Бэрлін, а таксама права свабодных грамадзян гэтага гораду на самавызначэньне. Нашае пакаленьне на горкім дасьветчаньні зразумела, што як ужыцьцё пагрозаў, так і адступленьне перад пагрозамі, можа прывесьці толькі да вайны. Але разумная цьвёрдасьць можа прывесьці да такога мірнага вырашэньня, у магчымасьць якога цьвёрда верыць нашая краіна.

Мы ня зьвязваем сябе ніякімі жорсткімі формуламі. Мы ня бачым ідэальнага вырашэньня. Мы прызнаем, што войска і танкі могуць, хоць часова, трымаць народ у стане расколу супраць ягонай волі, якой-бы неразумнай ні здавалася такая палітыка. Але мы верым, што магчымае мірнае пагадненьне, якое абараняла-б свабоду Заходняга Бэрліну, а таксама прысутнасьць там і доступ туды саюзьнікаў, а разам з тым прызнавала-б гістарычныя і законныя інтарэсы іншых у справе гарантыі бясьпекі ў Эўропе.

Магчымасьці перамоваў цяпер дасьледуюцца. Зарана гаварыць, якія пэрспэктывы гэтага працэсу. З нашага боку мы былі-б радыя заявіць у адпаведны мамэнт, што вырашэньне знойдзенае, бо патрэбы ў крызісе з прычыны Бэрліну, які пагражае міру, няма. І калі тыя, хто стварае крызіс, хочуць міру, дык у Бэрліне заўсёды будзе панаваць мір.

Падзеі і пастановы на працягу наступных дзесяці месяцаў могуць вырашыць лёс чалавецтва на працягу наступных 10 тысяч гадоў. Падзеяў гэтых нельга ўнікнуць. Перагледзець гэтыя падзеі таксама будзе нельга. І нас будуць прыгадваць або як пакаленьне, якое ператварыла нашу плянэту ў палымянае вогнішча, або як пакаленьне, якое стрымала сваё слова — выратаваць наступныя пакаленьні ад бізуна вайны.

Імкнучыся стрымаць гэтае слова, я абяцаю зрабіць усё, што можа зрабіць наша краіна. Я абяцаю, што мы ня зробім агрэсіі і яе не справакуем. Мы ня ўступім перад абліччам пагрозы гвалту і ня выклічам такую пагрозу. Мы ня будзем весьці перамовы з прычыны страху, але й ня будзем палохацца перамоваў.

Запалохваньне — сродак ня новы. На працягу гісторыі ён выкарыстоўваўся тымі, хто ня мог дамагчыся свайго шляхам пераконваньня ці добрым прыкладам. Але яны заўсёды дрэнна канчалі, або таму, што людзі не баяліся памерці за справу годнага жыцьця, або таму што самі запалохвальнікі разумелі, што вольных людзей нельга запалохаць пагрозамі і што агрэсія натыкаецца на супраціў. І менавіта ў сьвятле гісторыі кожны народ павінен у наш час разумець — прыяцель ён наш ці вораг — што Злучаныя Штаты маюць і волю і зброю дзеля таго, каб дапамагчы свабодным людзям быць годнымі іхнай адказнасьці.

Мы сабраліся тут, каб кінуць наш позірк праз гэты сьвет, поўны пагрозаў, на сьвет, у якім панаваў-бы мір. У гэтым імкненьні мы ня можам чакаць канчальнага трыюмфу: заўсёды будуць узьнікаць новыя пытаньні. Мы ня можам спадзявацца на тое, што ўсе краіны прымуць адну і тую-ж сыстэму кіраўніцтва: аднастайнасьць — турэмшчык свабоды і вораг росту. Ня можам мы спадзявацца й таго, што мы дасягнем нашай мэты ў выніку хітрыкаў, загадаў ці нават у выніку агульнага жаданьня.

Але, як-бы блізка мы ні падыходзілі часам да змрочнага й беспаваротнага прадоньня, хай ніхто, хто верыць у мір і свабоду, не ўпадае ў роспач. Бо ён не адзінокі. Калі мы ўсе прыкладзем нашыя высілкі — у кожнай краіне, у кожнай установе, за межамі нашых берагоў, дык тады ездымецца сьвітаньне веку, у якім тыя, што валодаюць сілай, будуць выкарыстоўваць яе справядліва, слабыя будуць жыць упэўненыя ў наступным дні, і мір будзе забясьпечаны на заўсёды.»

На заканчэньне прэзыдэнт Кэнэды сказаў:

«Сябры Генэральнай Асамблеі! Мы вырашаем. Ніколі яшчэ народы сьвету не маглі столькі страціць і столькі выйграць. Дзейнічайце супольна. Мы выратуем нашую плянэту або ўсе загінем у полымі. Мы можам яе выратаваць, мы павінны яе выратавць. І тады мы заслужым вечную ўдзячнасьць людзей — як міратворцы ў імя Госпада Бога.»

# Школьны камунізм

9 кастрычніка 1959 году зьявілася пастанова ЦК КПСС і Савету Міністраў СССР пад назовам «Пра некаторыя зьмены ў школе». Ад гэтага часу савецкія гісторыкі й асабліва Акадэмія педагагічных навук РСФСР усё яшчэ занятыя падрыхтоўкай падручнікаў зь гісторыі паводля праграмы для савецкіх няпоўных і сярэдніх школаў. Падобная рэарганізацыя гістарычнага навучаньня праводзіцца таксама й у савецкіх вышэйшых школах, аднак у меншым памеры, чымся ў сярэдніх школах.

Стымулам да гэтае рэарганізацыі гістарычнага навучаньня былі, ведама, апавешчаны Хрушчовам «пераход ад сацыялізму да камунізму», ягоны заклік «зьбліжыць школу з жыцьцём» ды рэцэпты ў справе «выхаваньня савецкага чалавека-камуністага».

Як вынікае з партыйных дырэктываў, а таксама з асьветчаньня адказных за гістарычную рэформу асобаў, новая праграма гістарычнага навучаньня ў школах СССР прадбачвае: а) усьведамленьне моладзі пра тое, што камунізм — нямінучая зьява ў гістарычным разьвіцьці людзтва, што гэта вынік гістарычнай заканамернасьці, якая палягае ў паступовай зьмене сацыяльна-эканамічных фармацыяў, пачынаючы ад так званай «першабытна-абшчыннай» і канчаючы найвышэйшай фармацыяй — камуністычнай; б) усьведамленьне гэтай моладзі, што камунізм — гэтая канчатковая мэта людзтва — падыходзіць да свайго завяршэньня ў СССР; в) што так званая капіталістычная сацыяльна-эканамічная фармацыя, асабліва сучасны заходні й амэрыканскі капіталізм, аджывае свае палітычныя дні й ідзе да нямінучай гібелі; г; што адзіна апраўданым гісторыяй зьяўляецца савецкі «камунізм» і як такі ён мусіць прывіцца ў цэлым сьвеце. Апрача гэтых заданьняў, новая праграма й падручнікі зь гісторыі павінны наглядна й абгрунтавана паказаць савецкай школьнай моладзі: а) што кампартыя Савецкага Саюзу, як была, так і мусіць застацца ў далейшым «адзінай кіраўнічай сілай»; б) што СССР і Масква пакліканыя гісторыяй кіраваць цэлым сьветам; в) што расейскі народ выбраны гэтай-жа гісторыяй панаваць над іншымі народамі.

Такім чынам, мэты гэтае актуальнае рэарганізацыі гістарычнага навучаньня ў савецкіх школах далёкабачныя. Яныж адначасна адлюстроўваюць гэты савецка-расейскі апартунізм, эгаізм і шавінізм. Дакладная праграма гітлерызму! Разам з гэтым тут прадбачваецца нябывалае дасюль хвальшаваньне гісторыі, наагул ліквідацыя гэтай гісторыі ды падмена яе выгадным для партыі й Масквы, але пустым сацыялягізмам.

Як ведама, ужо ад даўжэйшага часу Масква ўважае сваю псэўда-сацыялістычную сыстэму завяршальным лучывам у гісторыі. Паза гэтай сыстэмай, якая ад нядаўнага часу завецца таксама й «камунізмам», паводля Масквы, ня можа быць іншых шляхоў грамадзкага разьвіцьця, бо, выяўляецца, гэты савецкі «камунізм» і зьяўляецца тым вышэй-

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

Ант. Адамовіч

# Творы Алеся Гаруна

(Працяг)

Шукевічава абарона памагла аднак няшмат і ненадоўга. У вадзначаным ужо намі акадэмічным выданьні «Матчынага Дару» на яе яшчэ паклікаюцца, але рэдактар, акад. Замоцін, мусіць ужо «страхавацца» мацней, падчыркваючы ў сваёй прадмове, што Гарунова творчасьць

> ня трацячы й зараз свайго мастацкага значаньня, у ідэялягічных адносінах павінна быць адзначана як месцамі заблытаная, нявытрыманая й чужая нашаму часу,[55]

а яшчэ мацней — той-жа праф. Барычэўскі, у сваім новым, згамтаным і папраўдзе жалюгодным і для яго і для «акадэмічнага» выданьня нарысе — «Алесь Гарун і яго «Матчын Дар» — утoрачы пра Гаруновы творы, быццам

> амаль усе яны (за некаторым выключэньнем) псыхаідэялягічна далёкі ад нас і навет у некаторай сваёй частцы чужыя й варожыя нашай сучаснасьці.[56]

Праўда, ён яшчэ спрабуе шукаць, апрача пакліканьня на Шукевіча, нейкіх біяграфічных мамэнтаў на карысьць Гаруна, зазначаючы, прыкладам, што

> як відаць з аднаго яго ліста, ён разумеў, што сусьветная вайна была падрыхтаваная капіталістымі й банкірамі, якія шукалі новых рынкаў,

ды тут-жа пасьпешна «страхуючыся», што, пэўна-ж, паэта гэтага «прадумаць да канца» — гэтак, як Ленін, хіба, — ня мог . . .[57]

Пра наступную гісторыю акадэмічнага выданьня намі ўжо сказана хіба даволі. Савецкая забарона вісіць над Гаруном дагэтуль. Нядаўныя спробы літаратуразнаўцы Міхася Ларчанкі падвесьці й гэтага паэту пад «рэгабілітацыю» ў часе самага гарту гэтае кампаніі, мелі вынікам адно прыкрасьці для самога Ларчанкі, і ніякіх пэрспэктываў ні на ўзнаўленьне месца Гаруна ў савецкай гісторыі беларускага літаратурнага працэсу, ні на ўпрыступненьне ягонага творства для савецкага чытача, няма.

Тым больш на часе гэтае нашае эміграцыйнае выданьне твораў паэты. Задуманае й ужыцьцёўленае яно намі ў тым пляне, што й папярэднія выданьні тых самых выдаўцоў — Купалава «Спадчына» 1955 г. ды Багдановічаў «Вянок» 1960 г. — ды на аснове тых самых прынцыпаў падручнае кнігі творчасьці паэты для беларускага эмігранта», як прынцыпы гэтыя былі сфармуляваныя ў вапошнім з названых выданьняў, у артыкуле ніжэйпадпісанага «Наш Багдановіч».

Бяда адно, што для выданьня «нашага Гаруна» магчымасьці аказаліся куды мізарнейшымі, і гэта найперш і найбольш што да засягу выданьня: апрача «Матчынага Дару» ў вабодвых выданьнях, нам прыступныя былі адно лічаныя паэтавы творы, якія найлепш будзе й вылічыць адразу-ж на гэтым месцы:

> вершы «Бажаньне», «Песьня капачоў» і «Відзеньне» — тэксты з «Вольнага Сьцягу», № 1 (3), 15 траўня 1921 г., бб. 2—3;
>
> верш «Праводзіны» тэкст з часапісу «Школа и культура Советской Белоруссии», № 1, 1919 г. беларускі аддзел, бб. 4—5;
>
> вершы «Багаты вы», «Кліч», «Пралескі» ды апавяданьне «Пан Шабуневіч» — тэксты з «Хрыстаматыі беларускае літаратуры» І. Дварчаніна, 55. 229—237;
>
> вершы «Беларускі марш», «Паходная», «Апякун» — з часапісу «Гоман», 1918 г., №№ 24, 28, 42;
>
> апавяданьне «Сьвята» — тэкст з часапісу «Конадні», № 4, 1955 г.

З твораў гэтых «Беларускі марш» нікім не падпісаны, але Гарунова аўтарства, хоць нікім не паданае, лёгка ўстанаўляецца і паводля фактуры вершу, і паводля простага меркаваньня, што напісаць яго апрача Гаруна літаральна ня было больш каму ў вабставінах таго часу й месца.

Нашыя заклікі да шуканьня іншых Гаруновых тэкстаў праз газэту «Бацькаўшчына» тымчасам не далі аніякіх вынікаў, хоць мы й ня трацім надзеі, што з часам, хай сабе й з гадамі, нам удасца здабыць больш тэкстаў і, можа, нат выдаць нейкі дадатак або другі том ці выпуск гэтага збору. Дык тут толькі яшчэ раз зварачаемся да ўсіх, каму папаліся-б у рукі нейкія тэксты, ці проста магчымасьці здабыцьця іх, — памагчы нам у гэтым. Пералік ведамых тэкстаў, дадзены ў Карскага, паўтораны намі вышэй у сваім месцы, тутака хочам адно дадаць яшчэ паказкі на знаходжаньне некаторых тэкстаў паводля «Сыстэматычнага паказьніка матарыялаў, якія зьмешчаны ў часапісах і зборніках, што выходзілі на тэрыторыі БССР у 1917—1927 г. г.», выданага Беларускай Дзяржаўнай Бібліятэкай у Менску, 1929 г.:

> вершы Гаруна (ды пад іншымі ягонымі псэўдонімамі, паданымі з Карскага вышэй у сваім месцы) у газэце «Вольная Беларусь», №№ 24, 26, 29, 32, 33, 36 за 1917 г. ды №№ 1, 8, 9, 12, 14, 20—21, 29, 31, 39—40 за 1918 г.;
>
> у тэй самай газэце апавяданьне «П'етро й Калямбіна» ў № 3 за 1918 г.;
>
> Алесь Гарун. **Жывыя казкі** для дзіцячага тэатру. Хлопчык у лесе. Шчасьлівы чырвонец. Дзіўны лапаць. Менск, выданьне Беларускае Цэнтральнае Школьнае Рады, 1920 г., 52 бал.
>
> Алесь Гарун. **Датрымаў характару.** Абразок у ваднэй адслоне (пераробка з польскага) — у «Зборніку твораў для дзіцячага тэатру», выданьне Беларускае Цэнтральнае Школьнае Рады, Менск, 1920 г., бб. 26—34.

Што да «Матчынага Дару», дык тэкст ягоны ў нас устаноўлены на аснове асобных выданьняў — першага, Народнага Сакратарыяту Беларусі 1918 г., і акадэмічнага, Беларускай Акадэміі Навук, 1929 г. Акадэмічнасьць гэтага апошняга, дзеля паданай вышэй у сваім месцы ненармальнасьці ягонага рыхтаваньня й зьяўленьня, ня йдзе аднак у ніякае прыраўнаваньне з акадэмічнасьцяй папярэдняга яму выданьня твораў Максіма Багдановіча, апарат «Увагаў» (работы Мачульскага) куды бяднейшы й заганьнейшы ды шмат даць нам ня мог. Часта даводзілася пераглядаць папраўкі, парobленыя й абгрунтаваныя ў гэтых «Увагах», аднаўляць чытаньне першага выданьня, уносіць папраўкі зь яго (Мачульскаму, відаць, ня былі знаныя папраўкі памылак друку да першага выданьня, дадрукаваныя на тонкай чырвонай паперы й устаўляныя ці ўклейваныя, ды хіба ня ў усе экзэмпляры выданьня). Гэтак, прыкладам, з папраўак памылак друку да першага выданьня намі ўнесеныя наступныя: ня сумуй — заміж «ня думай» у вершы «Вясельле», што засталося непапраўленым у акадэмічным выданьні; у чужэнсьцьве — заміж «у чужцстве», у акадэмічным папраўленае на «у чужацтве»[58] — у вершы «На сьмерць». Адноўленыя зь першага выданьня: загаловак разьдзелу «Прыявы роднага», у акадэмічным папраўлены на «Праявы»[59] (тымчасам як «прыявы» — тое, што «прыявілася» — уявілася — куды больш тут на месцы, чымся «праявы» — тое, што «праявілася» — выявілася); тамы — у «Варажбе» — у акадэмічным папраўленыя на «шамы» быццам навет на аснове

# Зь беларускага жыцьця

## Адкрыцьцё і пасьвячаньне Беларускага Інтэрнату

Сёлета беларуская эміграцыя атрымала паважны новы здабытак — Беларускі Інтэрнат для Хлапцоў у Лёндане. Як ужо паведамлялася перш, дом для Інтэрнату здабыла Беларуская Каталіцкая Місія ў Лёндане сёлета ўвесну. Дзякуючы дапамозе дабрадзейных установаў і дзейнай падтрымцы беларускага актыву ў Лёндане зроблена неабходны рамонт, так што ўжо за пару тыдняў перад пачаткам школьнага году змаглі завітаць у Інтэрнат першыя вучні з «кантынэнту». А ў сыботу 2-га верасьня прыехалі вучні з Англіі ў суправаджэньні бацькоў — у Інтэрнаце адразу стала людна і гаманліва.

У нядзелю 3-га верасьня жыхары Інтэрнату і Марыянскага Дому ўжо з раньня ўсе былі на нагах, бо-ж перажывалі запраўды гістарычны дзень: адкрыцьцё і пасьвячаньне першага на эміграцыі беларускага інтэрнату для хлапцоў. Гэты дзень ушанавалі сваёй прысутнасьцяй і малітваю ня толькі шматлікія Беларусы, але й многія нашы ангельскія прыяцелі, так што беларуская капліца сьв. апосталаў Пятра і Паўла пры Марыянскім Доме напоўнілася як рэдка калі. Роўна а 10.30 Яго Дастойнасьць Часлаў Сіповіч Апостальскі Візытатар для Беларусаў ў саслужэньні а. Льва Гарошкі, Рэктара Беларускае Каталіцкае Місіі ў Англіі, і а. Янкі Садоўскага, Дырэктара Інтэрнату, адслужыў урачыстую Службу Божую і сказаў прынагоднае казаньне аб узгадаваньні моладзі, а роўна а 12 г. Яго дастойнасьць уладыка Часлаў у тым-жа саслужэньні пасьвяціў дом Інтэрнату і падзякаваў усім дабрадзеям.

Пасьля пасьвячаньня адбылося прыняцьце для ўсіх прысутных. Відаць было, што яго рыхтавалі гаспадарныя рукі ад шчырага сэрца. Шмат каго з гасьцей сам дом цікавіў больш чым сытна застаўлены стол. Ідзём за імі ў суправаджэньні айца Дырэктара. Усе пакоі ў доме, за выняткам аднаго, прыгожа й чыста адрамантаваны і ўладжаны адпаведна да прызначаных мэтаў. У залі, прызначанай для вучобы, на сьценах вісяць партрэты беларускіх паэтаў, пісьменьнікаў і дзеячоў; каля аднае сьцяны ўжо стаіць невялікая падручная бібліятэчка; у спальні ўсе ложкі засланы беларускімі дзяружкамі — здаецца дробныя рэчы, а як праз іх становіцца блізкаю далёкая Бацькаўшчына!

Тымчасам яшчэ ў Інтэрнаце замала мэбляў і адзін пакой неадрамантаваны, але і так трэба дзіву давацца, як многа зроблена тымі невялікімі сродкамі, якія здабыта на гэтую мэту.

Прыняцьце ў Інтэрнаце хутка ператварылася ў сямейную бяседу і таму ня дзіва, што зацягнулася да вечара. На разьвітаньне некаторыя госьці жадалі дырэктару: «Памажы, Божа ў адказнай працы»! І мы ад душы жадаем гэтага ўсёй дырэкцыі Інтэрнату.

**В. Блізкі**

### ДРУГІ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСКІХ КАТАЛІЦКІХ СВЬВЯТАРОЎ У 1961 ГОДЗЕ Ў КЭНІГШТАЙНЕ Ў ЗАХОДНЯЙ НЯМЕЧЧЫНЕ

На пачатку жніўня сёлета, адбыўся чарговы — ужо другі — Зьезд Беларускіх Каталіцкіх Сьвятароў у Кэнігштайне ў Нямеччыне з усёй бадай Заходняй Эўропы. На зьезьдзе ўдзельнічаў таксама Яго Эксцэленцыя Ўладыка Балеслаў Слосканс — Біскуп Менскі і Магілёўскі. Галавой зьезду ды й ягоным дзейным кіраўніком быў Яго Дастойнасьць Біскуп Часлаў Сіповіч — Апостальскі Візытатар Беларусаў-Каталікоў у вольным сьвеце. Галоўнай тэмай зьезду была справа рэлігійнай і грамадзкай працы Беларусаў на чужыне і далейшы лёс беларускага інтэрнату ў Лёндане.

## У Мэльбурне (Аўстралія)

2 ліпеня г. г. адбыўся ў Мэльбурне агульны сход Беларусаў. У працягу амаль 3-хгадзінных нарадаў была закранутая справа патрэбы ладжаньня супольных сьвяткаваньняў і вонкавага агульна-беларускага прадстаўніцтва ў Аўстраліі. Таксама была закранута справа адзінай беларускай праваслаўнай царквы ў Мэльбурне.

Сход выбраў Камітэт Ладжаньня Супольных Сьвяткаваньняў у складзе 7-мі асобаў, які мае сьвяткаваць угодкі 25-га Сакавіка, Слуцкага Паўстаньня, і ў меру магчымасьцяў іншыя ўрачыстасьці.

У справе Беларускага Прадстаўніцтва, сход даручыў дасюлешняму прадстаўніку Згуртаваньня Беларусаў у Вікторыі й Каардынацыйнага Камітэту Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, сп. М. Н., паразумецца з Аб'еднаньнем Беларусаў у Вікторыі і Н. С. В. дзеля прыгатаваньня на наступны агульны сход Беларусаў у Мэльбурне патрэбных дадзеных для пакліканьня такога Прадстаўніцтва.

Факт адбыцьця сходу трэба вітаць з задаваленьнем. Калі выбраны Камітэт здолее выканаць свой абавязак, ён адчыніць новую балонку ў гісторыі жыцьця Беларусаў у Аўстраліі. Таму, жадаючы яму посьпехаў у ладжаньні супольных сьвяткаваньняў у Мэльбурне, варта тут яшчэ прыпомніць прапанову, абмеркаваную на сходзе — што Камітэт ня толькі мае арганізаваць сьвяткаваньні, але і памятаць аб беларускім школьніцтве і прыдбаньні ўласнага кутка ў Мэльбурне. Гэта ў першую чаргу зможа зарганізаваць працяг беларускае дзейнасьці і на будучыню.

**Прысутны**

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

# Адзінаццаты Кангрэс „Царквы ў бядзе“

У пачатку жніўня ў Кэнігштайне адбываўся 11-ты Кангрэс г. зв. «Кірхэ ін Нот». На гэты кангрэс, як і кожнага году, прыбылі і Беларусы з розных асяродкаў Нямеччыны — былі і нашыя хлопчыкі-кандыдаты ў Беларускую Школу ў Лёндане ды і іншая нашая моладзь. Так, што сабралася даволі колькасная беларуская група, якая супольна з сваімі сьвятарамі пад кіраўніцтвам двух нашых біскупаў годна рэпрэзэнтавала нашу рэлігійную і нацыянальную справу, бяручы таксама й актыўны ўдзел у афіцыйнай праграме кангрэсу. І гэтак, сярод іншых, 3-га жніўня ў чацьвер вечарам на вялікім пляцы кангрэсу перад вобразам Найсьвяцейшай Дзевы Марыі лунала і беларуская малітва, сярод усіх іншых прысутных народаў, да Прачыстай Багародзіцы. У пятніцу (4-га жніўня) вечарам у галоўнай сьвятыні ўсе народы маліліся — кожны ў сваёй роднай мове і за свой паняволены народ. І беларуская сямейка на чужыне шчыра малілася, перад усімі — у сваёй роднай беларускай мове, за свой гэтак шматпакутны беларускі Народ, адмаўляючы прыпісаныя малітвы.

Кожнага дня раніцай Яго Дастойнасьць Біскуп Часлаў служыў супольна з усімі прысутнымі беларускімі сьвятарамі сьвятую Літургію за наш народ на чужыне, а перадусім на Бацькаўшчыне. Пяяў даволі стройна ўсходні хор клерыкаў мясцовай духоўнай сэмінарыі. Прысутнічала ўся беларуская група і шмат вернікаў іншых нацыяў. Айцец Леў Гарошка, Рэктар Беларускай Каталіцкае Місіі ў Лёндане, прачытаў даволі зьмястоўны рэфэрат аб рэлігійным палажэньні на Беларусі ў 1960 годзе. Рэфэрат адбыўся ў галоўнай залі кангрэсу перад усімі ўдзельнікамі кангрэсу з усіх нацыяў і выклікаў вялікае агульнае зацікаўленьне. 6-га жніўня (ў нядзелю) раніцай у галоўнай сьвятыні была адслужаная супольная ўрачыстая ўсходняя сьв. Літургія за ўсе народы перасьледаваныя бязбожным камунізмам. Беларускае духавенства на чале зь Яго дастойнасьцяй Біскупам Чаславам прыймала актыўны ўдзел у гэтай урачыстай багаслужбе, якому было нават прызначана пачэснае месца сярод іншых народаў.

Зьезд і кангрэс закончыліся. Разьвітваючыся ўсе супольна і адзін другому жадалі плённай працы на беларускай ніве на чужыне, што зьяўляецца быццам папарам, каб, калі «засьвеціць сонца і ў наша ваконца» быць гатовымі да адраджэнскай працы на вольнай і сапраўды незалежнай нашай Беларусі. Пуцяводнай зоркай будуць нашыя шчырыя сьвятыя малітвы ў нашай роднай мове, занесеныя перад трон Найвышшага ў Кэнігштайне.



**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

# Цьвёрды гарэх завяртанцам

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

й Латыскімі, а апошні досьлед хай мае Балтыйская Экспэдыцыя, якая міма бальшавіцкай устаноўкі, не дае падмацоўкі ў карысьць прадажнікаў тыпу Хацкевіча. Нам сорамна, што існуюць Беларусы тыпу Хацкевіча (зь беларускім прозьвішчам), якія так нахабна хлусяць. Не паслабляе гэтай хлусьні тлумачэньне Хацкевіча, быццам у Саветах існуе роўнапраўнасьць ды граніцы нацыянальных рэспублік ня маюць большага значэньня. На ўсім Савецкім Саюзе ідзе жудасная русыфікацыя. Выціскаецца ўсякімі спосабамі мова нерасейскага насельніцтва, а ўсюды пануе — расейская. Такім чынам, можам пагадзіцца з Хацкевічам, што няма сэнсу змагацца за нацыянальныя межы, калі ўсё мае стацца расейскім, маскоўскім. Калі-б так сказаў Хацкевіч, мы яго лічылі-б чалавекам. Але ён самы нізкі служака, нявольнік. За кусок марнага хлеба ён выслужваецца Маскве.

Ён нахабна аспрэчвае сп. Сапежку і аб насельніцтве Заходняга Краю паводля перапісу 1897 г. Сп. Сапежка гаворыць аб шасьці беларускіх губэрнях, «акадэмік» Хацкевіч аб пяці. Сп. Сапежка мала памыліўся, калі налічыў у 6 губэрнях 10 300 000 душ. Паводля нашых падлікаў у 6 названых губэрнях было 10 043 526 чалавек. Дадамо, што мы не пагаджаемся зь меркаваньнямі сп. Сапежкі, што Беларусь складалася з 6 губэрняў. Да Беларусі яшчэ належыць б. Пскоўская, Чарнігаўская, часткі Цьверскай, Калускай, Курскай, Арлоўскай, Ломжынскай, Сувальскай і Люблінскай губэрняў, якія ў 1897 г. налічвалі 15 640 541 насельніцтва. Такім чынам ужо ў 1897 г. разглядалася, як расейскі здабытак 7 122 294 чалавек. Выдатны расейскі мовавед В. Даль у сваім слоўніку «Жывы Вялікарускі Язык», выд. 1880 г. пісаў:

> «Чацьвертае з чатырох галоўных дыялектаў — заходняе, беларускае або смаленскае, — цягнецца ад Масквы на захад і нязначна пераходзіць ў чыста беларускае, на якое ўжо выразна паказвае навет гаворка ў Валакаламску, Рузе й Мажайску. Бязь ніякага перабольшаньня можна ўлучыць сюды ўсе заходнія губэрні, і зады да гэтага дыялекту будуць належаць губэрні: Смаленская, Віцебская, Магілеўская, Ковенская, Віленская, Горадзенская, Менская. Адны толькі паны, шляхта, гавораць там па польску.» «У суседніх губэрнях, у Ржэве, Зубцове, Валакаламску, Мажайску, Медыні, Масальску маюцца большыя ці меншыя адзнакі беларускай або смаленскай гаворкі, якой вось жывы прыклад:
> «Я-ж табе казаў, ня бяры больш ад аднаго воза; ну і ўзяў ба адзін. Як хто хочыць, так па сваём бацьку і плачыць. Ды сягоньні і ў горадзі ні болі жыдоў нетуці, дык і торгу нетуці; боль іх знаіць, гдзе яны падзівалісь; кажуць, што сьвята іх зайшло, дак на базары я ня прадаўся».

Гэты беларускі дыялект — прадаўжае Даль, — пашыраецца на захад да польскіх губэрняў, на паўдні да маларускіх, розьнячыся ў некаторых мясцовасьцях некаторымі асаблівасьцямі ды успрыймаючы па суседзтву словы, звароты, выражэньні польскія, маларускія ці вялікарускія; апошняе адносіцца асабліва да губэрні Смаленскай. Аднак вялікі ўдзел беларускай мовы чуваць у Чарнігаўскай, Арлоўскай, Калускай, Цьверскай і асабліва Пскоўскай губэрнях.»

Гэтаксама ў 1892 г. сьцвярджаў А. Пыпін:

> «...На этнаграфічнай карце, выданай у 1875 г. «Геаграфіческім Обшчеством» мы знаходзім беларускае племя раськінутае на вялізнай прасторы ўсяго заходняга краю, болей або меней суцэльнымі масамі. Паводля гэтай карты й іншых жаролаў, — яно пашыранае, апрача губэрняў Віцебскай і Магілеўскай, таксама ў губэрнях Віленскай, Горадзенскай, Менскай, Сувальскай, Смаленскай, Чарнігаўскай, Пскоўскай, урэшце невялікімі часткамі нават у Ковенскай, Цьверскай, Маскоўскай і іншых губэрнях».

Хацкевіч паказвае, што ў 1897 г. у 5 зах. губэрнях было 5 308 420 Беларусаў. Памінаючы памылку ягоную, што паводля афіцыйных дадзеных было 5 408 420 чалавек, запісаных Беларусамі, а ўва ўсёй Расейскай імпэрыі — 5 885 547 чалавек, мусім падкрэсьліць, што ўжо перапіс 1897 г. выяўляў чыста палітычныя расейскія накіраваньні, падцягваючы пад рубрыку «рускі» насельніцтва нашых усходніх земляў ды наагул праваслаўных. Ужо праф. Карскі абураўся, разглядаючы вынікі перапісу 1897 г., кажучы:

> «Статыстычныя дадзеныя аб Смаленскай губ. вельмі супярэчныя. У тых мясцох, дзе ў 1866 г. былі дзесяткі тысячы чыстых Беларусаў... у 1897 г., за 30 гадоў, часта паказана колькі дзесяткаў Беларусаў. Або яны чыста зрусыфікаваны, або проста запісаны «рускімі» і дзеля таго лучылі ў лік Вялікарусаў».

Карскі паправіў лік Беларусаў Смаленшчыны з 100 700 (паводля перапісу) на 842 000 (усяго насельніцтва ў Смаленшчыне было ў 1897 г. — 1 525 279). Стан «беларускасьці» у іншых усходніх губэрнях перапіс 1897 г. паказваў яшчэ горшы. Так напр. у старой крывіцкай Пскоўшчыне з агульным насельніцтвам 946 464 (без павету Порхава) — налічана толькі 2,300 Беларусаў!

Трэба тут падкрэсьліць з асаблівым націскам, што сам назоў «Беларус», «беларускі» быў штучна ўведзены Расеяй у 1772 г. як адміністрацыйны на абазначэньне толькі Магілеўскай і Віцебскай губэрняў. На Пскоўшчыну, Смаленшчыну, Чарнігаўшчыну і іншыя нашыя ўсходнія землі навет гэты назоў расейскага паходжаньня не распаўсюджваўся, а сярод насельніцтва гэтых зямель ніколі не азначаў крывіцкага этнічнага паходжаньня ці навет дзяржаўнага літоўскага. Вось такім чынам Масква штучна выкарыстала назоў «рускі», ды ў сваім перапісе 1897 г. ужо абвяшчала названыя беларускія землі расейскімі. Бальшавікі — прадаўжальнікі расейскай імпэрыялістычнай палітыкі, як мы гаварылі раней, з самага пачатку імкнуліся да скасаваньня беларускай нацыі ды прылучэньня беларускіх зямель да Расейскай рэспублікі, а калі гэта ім не ўдалося, дык прысланяючыся царскімі і сваімі фальсыфікацыйнымі перапісамі, цьвёрда абвесьцілі Пскоўшчыну, Смаленшчыну, Арлоўшчыну, Браншчыну, Куршчыну й іншыя старыя крывіцкія й літоўскія землі «рускімі» ды складовымі часткамі РСФСР. Гэтыя землі да сёньняшняга дня ня страцілі свайго беларускага аблічча, што прызнае савецкая навуковая экспэдыцыя дзеля этнічнага вывучэньня «руского населенія европейской часті СССР» (гл. Матеріялы і ісследованія до этнографіі русского нас. евр. часті СССР» (гл. Матеріялы і ісследованія по этнографіі русского нас. евр. часті СССР, М. 1960). Ясная рэч, гора-акадэмік Хацкевіч аб усім гэтым ня хоча ведаць, думаючы сваім «тытулам» ды нягудалай крутнёй пераканаць сп. Сапежку і іншых эмігрантаў.

За страты насельніцтва Беларусі, якія стрывожылі і сп. Сапежку, Хацкевіч усю бяду звальвае на Немцаў у часе II-й сусьветнай вайны. А дзе-ж маскоўска-бальшавіцкія злачынствы? Пагром нацдэмаўшчыны й прымусовая калектывізацыя БССР (у межах 1927 г.) каштавала каля 1 мільёна 200 тыс. беларускага насельніцтва. У Заходняй Беларусі пасьля яе далучэньня ў 1939 г. бальшавікі зьліквідавалі або вывезьлі ў Сібір 305 500 насельніцтва. Ужо тады ў 1939 г. паводля савецкага перапісу на тэрыторыі БССР (разам з Зах. Бел.) налічвалася 9 200 000 нас. гэта значыць **менш** на 100 000 чалавек, як было ў 1914 г. на тэй самай тэрыторыі. А дзе-ж тут натуральны прырост насельніцтва за 25 гадоў! Ён пры самым нізкім прыросьце (1%) за 25 гадоў павінен раўняцца 2 500 000 чалавек. Пэўне-ж сюды ўваходзяць страты першай сусьветнай вайны, але галоўным зьнішчальнікам насельніцтва БССР былі бальшавікі.

Другая сусьветная вайна спрычыніла, бязумоўна, вялікія страты у беларускім насельніцтве. Калі возьмем сучасныя межы БССР, то ў 1940 г. было паводля савецкіх дадзеных 9 200 000 чал., а ў лютым 1947 г. 7 079 000, — гэта значыць страты (бяз прыросту) складалі 2 111 000 чалавек. Ня ўся гэтая лічба — нямецкае злачынства. Ня меншая віна ў вынішчаньні насельніцтва была й бальшавіцкая. То-ж яны на працягу 2 з палавінай гадоў на Беларусі стварылі партызанскі фронт ды ня менш бязьлітасна ад Немцаў зьнішчалі насельніцтва, а пасьля адыходу нямецкай арміі з тэрыторыі Беларусі ў 1945-46 гг., правялі масавы пагром насельніцтва, абвінавачваючы яго ў супрацоўніцтве зь Немцамі. Тады было паводля нашых прыблізных падлікаў зьліквідавана й вывезена ў Сібір з БССР 850 000 чалавек. А навет узяўшы тыя 7 079 000 чал. насельніцтва, якія ацалелі ў 1947 г. то за 12 гадоў пры сярэднім прыросьце 1,2% у 1959 г. павінна было быць у межах БССР — 8 100 000 чалавек, а тымчасам налічылі кругленькія 8 мільёнаў. А хто топіцца на цалінных землях, як не Беларусы сярод іншых нерасейскіх народаў?

Дык вось на ваш рахунак, хацкевічы й падобныя вам маскоўскія найміты, прыпадае за 44 гады 4 з палавінай мільёнаў беларускага насельніцтва толькі з тэрыторыі сягоньняшняй БССР. А калі мы возьмем ўсю этнаграфічную Беларусь — то вашыя злачынствы дасягнуць 10 мільёнаў чалавек.

«Круці ні круці, трэба памярці» — кажа народная прыказка. Гэтак як нагла ні круціць гора-акадэмік Хацкевіч, як ні хлусіць ды заступаецца за сваіх маскоўскіх цівуноў — ім не дагодзіць, тым больш такой няўдольнай пісанінай. Масква пасьлядоўна вынішчае беларускі народ, каб па ім не засталося нічога, апрача гэаграфічнага паняцьця.

**Мікола Волацiч**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk**, 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia**, 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz**, 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan**, 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity**, 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk**, Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis**, 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich**, 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec**, 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula**, 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue de Montholon,** Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan**, 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).





Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.